Гродна
№5 (487),
4 сакавіка 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# СПЯШАЦЦА РАБІЦЬ ДАБРО




Традыцыйна ў ІІІ Нядзелю Вялікага посту, якая сёлета прыпадае на 4 сакавіка, адзначаецца нацыянальны дзень "Карытас". Ахвяраванні, сабраныя ў гэты дзень у парафіях Беларусі, прызначаны на дапамогу патрабуючым, якімі апекуецца дабрачыннае таварыства. Касцёл шчыра дзякуе ўсім, хто прычыняецца да справы міласэрнасці.

● працяг на с. 4

## Паслуга сясцёр серафітак: занесці любоў Стварыцеля патрабуючым


С. Юліта Пятрова, с. Гарэцці Міленкевіч і с. Эўхарыя Хульбуй (злева направа) з рэліквіямі заснавальніцы сваёй кангрэгацыі бл. Малгажаты Шэўчык

На працягу 25-ці гадоў у Сапоцкіне нясуць паслугу манахіні з Кангрэгацыі Дачок Маці Божай Балеснай (серафіткі). Яны клапоцяцца пра касцёл, праз катэхезу набліжаюць дзяцей і моладзь да Бога, апекуюцца і дапамагаюць адзінокім, убогім, патрабуючым людзям. Сёння гэтымі абавязкамі ў парафіі занятыя с. Эўхарыя Хульбуй, с. Гарэцці Міленкевіч і с. Юліта Пятрова. У бягучым нумары "Слова Жыцця" сёстры серафіткі распавядаюць пра тое, як прыбылі ў Беларусь і што лічаць найважнейшым у рэалізацыі свайго паклікання.

● працяг на с. 5

"Міласэрнасць адчыняе дзверы розуму для лепшага спасціжэння таямніцы Бога". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**III НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Ян 2, 13–25**

Набліжалася юдэйская Пасха, і Езус прыйшоў у Ерузалем. І знайшоў у святыні тых, хто прадаваў валоў, авечак і галубоў, і мянялы сядзелі там. І зрабіў бізун з вяровак і павыганяў усіх са святыні, а таксама авечак і валоў, грошы мянялаў парассыпаў, а сталы паперавярочваў. А прадаўцам галубоў сказаў: “Забярыце гэта адсюль і не рабіце дому Айца Майго домам гандлю”. І прыгадалі вучні Ягонія, што напісана: “Клопат аб доме Тваім з’ядае Мяне”. На гэта юдэі сказалі Яму ў адказ: “Які знак пакажаш нам, што можаш гэтак рабіць?”. Езус сказаў ім у адказ: “Зруйнуйце святыню гэтую, і Я за тры дні ўзнясу яе”. І сказалі юдэі: “Гэтая святыня будавалася сорак шэсць гадоў, а Ты ўзнясеш яе за тры дні?”.

Казаў жа Ён пра святыню цела свайго. І калі Ён уваскрос з мёртвых, то вучні Ягонія ўспомнілі, што Ён казаў гэта, і паверылі Пісанню і слову, якое казаў Езус. І калі Ён быў у Ерузалеме на свяце Пасхі, многія, убачыўшы ўчыненыя Ім цуды, паверылі ў імя Ягонае. Але сам Езус не давяраўся ім, бо сам ведаў усіх і не меў патрэбы, каб хто сведчыў пра чалавека, бо сам ведаў, што было ў чалавеку.

### СВЯТЫНЯ СЭРЦА

Святыня – месца сустрэчы чалавека з Богам. Аднак маецца на ўвазе не толькі канкрэтны будынак, але таксама непасрэдна сама асоба і яе жыццё. У дадзеным фрагменце Евангелля Езус прыгадвае, што Усемагутны прагне, каб Яго святыня была дагледжанай, прызначанай для размовы з Ім, каб у ёй не адбывалася нічога, што адцягвае ўвагу тых, хто моліцца, што адбірае веліч Божага дома.

Вялікі пост з’яўляецца добрай нагодай, каб прывесці ў парадак Божую святыню, гэта значыць не толькі касцёл, але і месца сваёй непасрэднай сустрэчы з Панам – уласнае сэрца. Калі сапраўды хочам жыць дабром, для якога былі створаны, павінны знайсці Бога як першага Даўцу гэтага дабра. Павінны нястомна вучыцца штодзённай асабістай і асабовай прыязнасці з Панам. Калі ж будзем старанна клапаціцца аб прысутнасці Усемагутнага ў сваім сэрцы, Ён здзейсніць у нас цудоўныя справы.

**Ці клапачуся аб святыні свайго Айца?**

**Ці імкнуся да сяброўства з Езусам?**

**IV НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Ян 3, 14–21**

Езус сказаў Нікадэму: “Як Майсей узвысіў змяю ў пустыні, так павінен быць узвышаны Сын Чалавечы, каб кожны, хто верыць у Яго, меў жыццё вечнае. Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет быў збаўлены праз Яго. Хто верыць у Яго, не будзе асуджаны, а хто не верыць, той ужо асуджаны, таму што не паверыў у імя Адзінароднага Сына Божага. А суд у тым, што святло прыйшло на свет, але людзі больш палюбілі цемру, чым святло, бо ўчынкі іхнія былі дрэннымі. Таму кожны, хто чыніць зло, ненавідзіць святло і не ідзе да святла, каб не адкрыліся яго дрэнныя ўчынкі. А хто паступае па праўдзе, ідзе да святла, каб яўнымі былі ўчынкі ягоныя, бо яны здзейсненыя ў Богу”.

### НА ЛЮБОЎ АДКАЗАЦЬ ЛЮБОЮ

Нікадэм пасля размовы з Езусам спазнаў ласку навяртання і пачаў паступова змяняць сваё жыццё. А адбылося так, таму што ён палюбіў Усемагутнага, на любоў адказаў любоўю.

Збаўленне чалавека залежыць ад яго рашэння – прыняцця ці адштурхоўвання Божай любові, аб’яўленай у Хрысце. Мы можам адкрыцца на яе або адвярнуцца, можам далей трываць у цемры ці накіравацца за Святлом. Але калі хочам быць збаўлены, павінны паверыць у Езуса, стаць на Яго бок. Аднак кожны чалавек мае вольную волю, і Бог яе шануе.

**Ці на Божую любоў я адказваю любоўю?**

**Ці вызнаю перад іншымі людзьмі, што Езус для мяне з’яўляецца кімсьці сапраўды важным?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Распалім у сабе любоў!

*У час Вялікага посту ўзгадваем важную праўду: для Пана Бога з’яўляюцца вызначальнымі не столькі знешнія практыкі, здзейсненыя вернікам напаказ учынкі, колькі сапраўднае навяртанне, якое заключаецца, перш за ўсё, у перамене сэрца. Пераменелае, яно заўсёды адкрыта на практыкаванне спраў любові.*

Стварыцель аб’явіў людзям міласэрнасць, калі спаслаў у свет свайго Сына, каб збавіў кожнага чалавека. Езус Хрыстус праяўляў міласэрнасць, калі навучаў, аздараўляў хворых, уваскрашаў памерлых, выганяў злых духаў. Міласэрнасць Усемагутнага ва ўсёй сваёй паўнаце праявілася на Галгофе, калі Месія ўзяў на сябе грахі цэлага свету, прымаючы ганебную смерць з любові да людзей, каб тэкім чынам адкупіць нашыя правіны. Аднак праз 3 дні Ён уваскрос, бо быў мацнейшы за смерць, і вярнуў чалавеку страчанае раней вечнае жыццё.

Бог прагне, каб мы Яго пераймалі ў аказанні міласэрнасці нашым бліжнім. Гаворыць пра гэта вельмі выразна: “Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць” (Мц 5, 7). Чалавек жа, які дасведчыў міласэрнасць, павінен перадаваць яе далей.

Найлепшы спосаб, каб навучыцца аказваць міласэрнасць бліжнім, – угледацца ў Бога, Айца міласэрнасці, і Яго Сына Езуса Хрыста. Збаўца і ў вобразе Апошняга Суда падказвае нам, як здзяйсняць любоў у адносінах да іншага чалавека: “Што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі” (Мц 25, 31–46). Практыкаваць міласэрнасць нас вучаць таксама набажэнствы Крыжовага шляху і Песняў жальбы, якія маюць асаблівае значэнне ў перыяд Вялікага посту. Варта шукаць крыніцы міласэрнасці ў родным доме, прабачаючы адзін аднаму, ставячыся да блізкіх з пашанай і бескарысліва ім служачы.

Езус не патрабуе ад нас столькі, колькі штодзённа патрабаваў ад сябе. Не чакае, што мы будзем памнажаць хлеб, аздараўляць хворых ці ўваскрашаць памерлых, што раздзелім лёс асуджаных. Чакае прасцейшых рэчаў: каб падалі беднаму кавалак хлеба, шклянку вады, адчынілі дзверы перад нечаканым госцем, падзяліліся вопраткай, адведалі хворага ці вязня. Гэтыя ўчынкі не патрабуюць вялікага гераізму, хіба трохі ахвяры і адданасці. Аднак варта іх здзяйсняць, каб некалі пачуць з вуснаў самога Езуса: “Прыйдзіце, благаслаўлёныя Айца Майго, прыміце ў спадчыну Валадарства, падрыхтаванае вам ад стварэння свету” (Мц 25, 34).

**Дарагія Чытачы!**

Перажываючы час Вялікага посту, які павінен нанова распаліць нас у любові, давайце старацца быць узаемна міласэрнымі, каб і Бог аказаў нам гэтае найпрыгажэйшае вымярэнне сваёй дасканаласці. Калі чакаем любові ад Пана, павінны дзяліцца любоўю з бліжнім! Калі чакаем міласэрнасці ад Езуса, будзьма міласэрнымі да патрабуючых! Калі разлічваем на адпушчэнне грахоў, прабачайма крыўды! Калі хочам, каб Пан быў да нас велікадушны, будзем з зычлівасцю глядзець на іншага чалавека!

Ажыўленыя любоўю, давайце служыць адзін аднаму (параўн.: Гал 5, 13).

## “НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ”

# СВ. ДАМІНІК САВІО: ЗАСТУПНІК ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ



**Іканаграфія паказвае св. Даменіка Савіо з лілеяй ці з крыжом у далоні. Часам ён стаіць перад фігурай Маці Божай. Бывае прадстаўлены з анёлам.**

***Належыць да кола самых маладых вызнаўцаў Хрыста, кананізаваных Касцёлам. Памёр, маючы няпоўных 15 гадоў. Яго кароткае жыццё характарызавалася сумленным выкананнем абавязкаў, паслухмянасцю і цярпеннем, а таксама радасцю і святасцю. Св. Дамінік з’яўляецца заступнікам міністрантаў, хлапечых хораў, маці ў благаслаўлёным стане і сужэнстваў, якія прагнуць мець патомства.***

**ЛЕПШ ПАМЕРЦІ, ЧЫМ ЗГРАШЫЦЬ**

Дамінік Савіо з’явіўся на свет 2 красавіка 1842 года ў Рыва дзі К’еры непадалёк ад Турына (Італія) у набожнай і любячай шматдзетнай сям’і. Бацька быў рамеснікам, маці – краўчыхай. Хлопец нарадзіўся вельмі слабым, таму бацькі, баючыся, што дзіця можа памерці, ахрысцілі яго ў той жа дзень. Нованароджанаму далі імя Дамінік, што значыць “які належыць Богу”.

Ва ўзросце 5-ці гадоў хлопчык пачаў прыслужваць падчас св. Імшы. Не раз прыходзіў у касцёл значна раней да пачатку Эўхарыстыі. Тады станавіўся на калені перад зачыненай святыняй і маліўся. Вельмі часта адараваў Пана Езуса ў Найсвяцейшым Сакраманце. Маючы 7 гадоў, прыступіў да Першай св. Камуніі. Гэта было дастаткова незвычайна, таму што ў тыя часы да сакрамантаў пакаяння і св. Камуніі дапускалі ў значна старэйшым узросце. Аднак св. Дамінік ужо тады выразіў сваю духоўную сталасць, запісаўшы ў сваёй кніжцы да набажэнстваў: “Лепш памру, чым зграшу”. Да гэтай пастановы дадаў яшчэ некалькі: “Буду часта спавядацца і прыступаць да Камуніі столькі, колькі мне дазволіць спаведнік”, “Буду святкаваць святы дзень”, “Маімі сябрамі будуць Езус і Марыя”.

Калі меў 12 гадоў, пазнаёміўся з кс. Янам Боско. Святар прыняў Даменіка ў свой турынскі араторый – школу і інтэрнат для хлопцаў. Паміж маладым чалавекам і заснавальнікам салезіянскай сям’і ўзнікла асаблівая духоўная сувязь. Дон Боско адразу заўважыў у Даменіку “Божую іскру”. З таго часу хлопец дапамагаў яму ў выхаваўчай працы, а праз 2 гады заснаваў з некалькімі сябрамі Таварыства Беззаганнай. Задачай Даменіка была апека над разумова і маральна слабейшымі калегамі.

Хлопец заўсёды дапамагаў сябрам, суцяшаў і клапаціўся пра слабейшых, вадзіў іх у касцёл. Любіў май – марыйны месяц. Дзе толькі мог аздабляў алтарыкі, збіраў перад імі таварышаў, каб разам маліцца і спяваць. Падчас гэтых набажэнстваў Дамінік амаль заўсёды меў апушчаныя вочы. На пытанне “Чаму?” адказваў: “Я хачу захаваць іх для сузірання Маці Божай у Небе”.

Памёр ад хваробы лёгкіх 9 сакавіка 1857 года. Перад смерцю сказаў свайму бацьку: “Да пабачэння, тата! О, якія ж цудоўныя рэчы я бачу!”. У 1950 годзе Святы Айцец Пій XII абвясціў св. Даменіка Савіо благаслаўлёным, а праз 4 гады – на 100-годдзе абвяшчэння догмы аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі – Папа далучыў яго да ліку святых.

**ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ДАМІНІКА САВІО?**

Святы зачароўвае сваёй вернасцю ідэалам. Адданасць маладога чалавека Богу і Касцёлу з’яўляецца для сучаснікаў узорам супрацьстаяння духоўнай абыякавасці, культуры спажывання і пачуццёвага задавальнення.

**ЦІКАВА!**

Нават праз 30 дзён пасля смерці Даменіка яго бацька надалей горка аплакваў страту. Тады перад ім з’явіўся сын. Мужчына быў настолькі ўражаны, што не здолеў прамовіць ні слова. Нарэшце спытаўся, ці хлопец знаходзіцца ў Небе. Дамінік даў пазітыўны адказ і абяцаў маліцца за блізкіх.

**З ВУСНАЎ СВЯТОГА**

“Мне не патрэбна нічога з гэтага свету, каб быць шчаслівым. Трэба толькі бачыць Езуса ў Небе, якога я сузіраю і адарую на алтары вачыма маёй веры”.

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае св. Даменіка Савіо 9 сакавіка.

*Кс. Юрый Марціновіч*

МОЛАДЗЬ У КАСЦЁЛЕ



# Прывесці моладзь да Бога праз асабісты прыклад

**“Гуляйце, скачыце, бегайце, шуміце. Для мяне важна толькі адно: каб вы не грашылі”. З гэтымі словамі звяртаўся да сваіх выхаванцаў св. Ян Боско – заснавальнік салезіянскай супольнасці. Такога дэвіза прытрымліваюцца таксама ў араторыі св. Яна Боско пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні, дзе вядзецца праца з дзецьмі і моладдзю. Некалькі разоў на тыдзень дзесяткі мясцовых маладых жыхароў збіраюцца ў салезіянскім моладзевым цэнтры, каб з малітвай і адарацыяй, святам і весялосцю, спартыўнымі баталіямі і творчымі вечарамі бавіць вольны час. У гэтым наведвальнікам дапамагаюць аніматары, служэнне якіх заключаецца ў добрасумленным выкананні штодзённых абавязкаў, ахвярнасці, радасці, што паходзіць ад чыстага сумлення і лучнасці з Панам.**

## ХТО ТАКІЯ АНІМАТАРЫ?

Кл. Марк Найдзіч SDB, адказны за араторый св. Яна Боско ў Смаргоні, распавядае, што падрыхтоўка аніматараў у салезіянскім цэнтры вядзецца ўжо не адзін год. Яны працуюць у харызме Дона Боско, а галоўная мэта іх служэння – пастаянная прысутнасць сярод дзяцей і моладзі, евангелізацыя і сведчанне сапраўднай хрысціянскай радасці.

***“Гісторыю аніматарства ў Смаргоні можна адлічваць ад моманту адкрыцця араторыя ў 2004 годзе,*** – гаворыць кл. Марк. – ***Спачатку маладыя людзі збіраліся самі па сабе, па суботах рыхтавалі вечары, спартыўныя спаборніцтвы, адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Адным словам, шукалі шляхі і магчымасці, каб запоўніць вольны час. З 2008–2009 гадоў пачалася больш сур’ёзная фармацыя будучых аніматараў. Сярод хлопцаў і дзяўчат шукалі тых, хто спрытнейшы, інтэлектуальна развіты, прытрымліваецца маральных прынцыпаў і гатовы ўзяць на сябе адказнасць за выхаванне іншых. 13-гадовыя падлеткі пачыналі праходзіць адмысловую міні-школу аніматарства, вучыліся быць памочнікамі. Гэтая падрыхтоўка трывала 2 гады: памочнікі знаёміліся з асобай кс. Боско, вучыліся адказваць за дзіцячы араторый, бавіць час з дзецьмі, якія прыходзілі ў цэнтр пасля св. Імшы. Ладзілі для іх забавы, святы, забаўляльныя імпрэзы”.***

Той, хто годна праходзіў гэтае выпрабаванне, складаў адмысловыя абяцанні і пераходзіў на наступную ступень – кандыдата ў аніматары. ***“У сваю чаргу шлях ад кандыдата да аніматара таксама займае прыкладна 2 гады. Каб падняцца на вышэйшую ступень, трэба праявіць сябе, прадэманстраваць свае здольнасці, уменні. І тут усё залежыць выключна ад канкрэтнага чалавека і яго актыўнасці,*** – тлумачыць кл. Марк. – ***У працэсе падрыхтоўкі кандыдаты прымаюць удзел у фармацыйных сустрэчах, паглыбляюць разуменне салезіянскага вучэння, сваю духоўную сталасць, узрастаюць у аніматарскім пакліканні. Калі бачым, што кандыдат з’яўляецца добрым хрысціянінам, з якога ў духоўным плане можна браць прыклад, што ён сапраўды гатовы бескарысліва ахвяраваць свой час і сваё сэрца дзеля іншых, шчыра прагне стаць на гэты валанцёрскі шлях і пайсці па ім, прымаем яго ў аніматары”.***

Кл. Марк падкрэслівае, што кандыдаты і аніматары – “душа араторыя”. Яны прыходзяць сюды не толькі, каб ім карысталіся, але і для таго, каб праяўляць сваю любоў у адносінах да іншай асобы, даваць нешта ад сябе, чымсьці дзяліцца.

***“Аніматарства базуецца на ўзаемнай інтэграцыі 3-ох асноўных аспектаў: розуму, веры і любові. Тут можна правесці аналогію са свечкай, у якой воск – гэта розум. Ён дае форму, выразнасць. Кнот – гэта вера, цэнтральны элемент, унутраны стрыжань, без якога траціцца сэнс. А полымя – любоў, без якой нічога не мае сэнсу. Аніматарства з’яўляецца змаганнем не толькі за іншага чалавека, але і за самога сябе, пераадольваннем уласных бар’ераў і комплексаў. Яно дапамагае вучыцца любіць сябе і іншых”,*** – падсумоўвае адказны за араторый.



Падчас "Канікул з Богам" у смаргонскім араторыі

## НЕ ТОЛЬКІ ЗАБАЎЛЯЦЬ, АЛЕ ВЫХОЎВАЦЬ

С. Дар’я Еўтухоўская FMA, адна з арганізатарак працы смаргонскага араторыя, адзначае, што на дадзены момант кандыдаты і аніматары – гэта, у асноўным, старэйшая моладзь: вучні выпускных класаў або студэнты. Кожны тыдзень яны рыхтуюць забаўляльныя вечары ды іншыя цікавыя мерапрыемствы для наведвальнікаў араторыя.

***“Субота і нядзеля – найбольш загружаныя дні, калі збіраецца шмат моладзі. Сярод нашых гасцей як практыкуючыя католікі, так і дзеці ды моладзь, далёкія ад веры і святыні,*** – распавядае с. Дар’я. – ***Аніматары арганізоўваюць для іх кінапрагляды, спартыўныя спаборніцтвы, гульні. Неад’емнай часткай такіх сустрэч з’яўляецца малітва. Таксама аніматары звяртаюцца да ўдзельнікаў сустрэчы са «слоўкам» – кароценькім павучаннем. «Слоўка» не абавязкова звязана з пытаннямі веры, яно можа мець нейкі выхаваўчы аспект, закранаць пэўныя маральна-этычныя пытанні. Паколькі зараз перыяд Вялікага посту, то акцэнтуем увагу на Евангеллі, цытуем выбраныя ўрыўкі, над якімі пазней разважаем. Гэта робіцца дзеля таго, каб, пакідаючы араторый, малады чалавек мог над чымсьці задумацца, нешта прааналізаваць”.***

С. Дар’я таксама падкрэслівае, што задача аніматараў – не толькі забаўляць, але і выхоўваюць. ***“Нашыя аніматары радасныя. Яны «здабываюць» сэрцы наведвальнікаў араторыя, бо з чуласцю акружаюць іх апекай і любоўю, не шкадуюць лішні раз сказаць добрае слова ці ўсміхнуцца. Яны таксама на ўласным прыкладзе паказваюць, што жыць з Богам у сэрцы – гэта прыгожа. Штодня дэманструюць сваімі паводзінамі, што хрысціянскія прынцыпы, пра якія часта гаворыцца падчас сустрэч у араторыі, з’яўляюцца не пустымі словамі, а фундаментам, на якім базуецца жыццё сапраўднага салезіянскага аніматара. Св. Ян Боско хацеў выхаваць маладых людзей, каб яны былі добрымі хрысціянамі, сумленнымі грамадзянамі і шчаслівымі жыхарамі Неба. Нашыя аніматары таксама кіруюцца гэтым жаданнем у сваім служэнні”.***

*Кінга Красіцкая*

### МАРТА АДАХОЎСКАЯ

*Я наведвала араторый з самага маленства. Назірала і захаплялася, якой надзвычайнай энергіяй прасякнута кожнае свята і мерапрыемства. З самім жа паняццем аніматарства пазнаёмілася падчас летніка ў араторыі. Мяне вельмі ўразіла, як маладыя людзі, нават школьнікі, цалкам аддаюць сябе служэнню дзецям. Праз вясёлыя гульні, тэатральныя пастаноўкі, малітву паказваюць, якім прыгожым можа быць жыццё ў веры. Тады ўва мне загарэўся нейкі агеньчык, і я зразумела, што таксама хачу праз аніматарскае служэнне, радасць, усмешкі, сяброўства і падтрымку дапамагаць бліжнім пазнаваць Бога.*

*Лічу, што галоўнае правіла аніматара – быць ініцыятыўным, не баяцца выйсці насустрач Богу і чалавеку. У буднія дні мы дзяжурым у араторыі: сочым за парадкам, гуляем з тымі, хто прыйшоў. Таксама прымаем непасрэдны ўдзел у арганізацыі касцёльных урачыстасцей, прапануем свае ідэі, рыхтуем дэкарацыі і касцюмы.*

### АЛІНА АРЦЮКЕВІЧ

*Кожны, хто з’яўляецца аніматарам, хоча ахвяраваць сябе і свой час дзеля моладзі і дзяцей, якія гэтага патрабуюць. Не магу сказаць, што гэта лёгка. Насамрэч, калі ты “непаклікаены”, то наўрад штосьці атрымаецца. Каб быць сапраўдным аніматарам, трэба, не шкадуючы, ахвяраваць сябе. Таксама важна разумець, што салезіянскі аніматар адрозніваецца ад звычайнага аніматара. Мы не прыходзім, каб проста “весяліць” моладзь, але каб дапамагчы знайсці шлях да сапраўднага шчасця, да Бога праз гульні, спевы, вечарыны, радасць і абавязкова праз малітву.*

*Шмат маладых людзей у сучасным свеце з’яўляюцца нібыта пакінутымі. Часта ім не хапае бацькоўскай любові, таму шукаюць гэтую любоў на вуліцы, сярод такіх жа, як і яны, з дапамогай цыгарэт ці алкаголю. У той жа час мы – аніматары, святары салезіяне і сёстры салезіянкі – спрабуем быць для іх сапраўднымі сябрамі. Хочам паказаць іншы варыянт, як можна добра правесці вольны час. Ведаю некалькіх маладых людзей, якія пасля знаёмства з салезіянамі і араторыем змянілі сваё жыццё.*

### КАРАЛІНА СНЯЖКО

*Аніматарства – гэта не праца, а пакліканне. Аніматар – той, хто можа аддаць сваё жыццё для іншых. На першы погляд можа паказацца “шалёным”, але ён проста вельмі адданы сваёй місіі, якая заключаецца ў выратаванні душ, што заблукалі. Дзякуючы намаганням нашай вялікай салезіянскай сям’і, святарам і манаскім сёстрам у жыцці маладых людзей адбываюцца вялікія цуды: тыя, хто адыходзіў ад Бога альбо зусім не ведаў Яго, навярнуліся і даверыліся Усявышняму.*

*Праз фармацыю і старанную працу мы становімся тымі, хто жыве ў еднасці з Богам і ў каго на першым месцы заўсёды будзе Езус і Марыя! Аніматарства падаравала мне другую сям’ю, новых сяброў, таксама яно дапамагае ісці па прыступках да святасці. Я вельмі ўдзячная Богу за гэтую магчымасць.*

### МІХАІЛ ДУДКО

*Салезіянскі аніматар – гэта чалавек дзеяння, які не сядзіць на месцы, ідзе наперад і вядзе за сабою іншых. Ён запальвае духам радасці тых, хто знаходзіцца побач. Гэта таксама чалавек, які шчыра дзеліцца з іншымі сваімі талентамі, асабістым часам. Наша задача – не дапусціць граху, стварыць атмасферу дабра і радасці. Вельмі цешуся, што лёс звёў мяне з салезіянскай сям’ёй і я змог рэалізаваць сваё пакліканне – дзейнічаць на карысць іншых людзей.*

*Аніматарства шмат у чым мне дапамагло: я пазбавіўся пэўных комплексаў, навучыўся правільна камунікаваць, здабыў новыя веды і ўменні, якімі карыстаюся не толькі ў араторыі, але і ў паўсядзённым жыцці. Напрыклад, зараз у сваім студэнцкім асяроддзі з лёгкасцю магу арганізаваць нейкую імпрэзу ці экскурсію, бо ведаю, як гэта правільна рабіць.*

### ЮЛІЯ ЗАБЕЛЬСКАЯ

*У нашай камандзе не можа быць “я”, ёсць толькі “мы”, бо разам працуем дзеля агульнага выніку. Для кожнага, упэўнена, гэта ў радасць – рабіць тое, што па-сапраўднаму любіш. Арганізоўваем розныя акцыі, праводзім вечары для моладзі, тэматычныя сустрэчы, адарацыі. Галоўнае – быць сярод рабят, запальваць іх і не даваць згаснуць.*

*Аніматарства цікавае для мяне тым, што я магу пазнаёміцца з новымі людзьмі, пазнаць іх унутраны свет, таксама магу сама раскрывацца як асоба. Спачатку я была вельмі сціплай і замкнутай дзяўчынкай, але араторый мяне па-сапраўднаму змяніў, паказаў, на што на самой справе здольна. Я шчаслівая, што Бог абраў мяне менавіта для аніматарства.*

### КАЦЯРЫНА ЦЯЛЕГА

*Зараз я з’яўляюся кандыдатам у аніматары. У нас сапраўдная салезіянская сям’я, дзе мы праводзім шмат часу разам, развіваемся фізічна і духоўна. Калі казаць пра цяжкасці, то зараз яны ўзнікаюць выключна з-за таго, што вучуся ў 11 класе і парой не хапае часу, каб прымаць удзел у арганізацыі некаторых мерапрыемстваў. Але з усіх сіл стараюся паспяваць і ў школе, і ў араторыі.*

*Дзякуючы аніматарскай актыўнасці маё акружэнне змянілася ў лепшы бок. Я знайшла новых сяброў, атрымала вопыт працы з дзецьмі і моладдзю. Упэўнена, што сапраўдны салезіянскі аніматар – чалавек-душа, чалавек-запальнічка, які распальвае агонь унутры іншых людзей. Я таксама да гэтага імкнуся.*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Спыніся, паглядзі і навярніся […]. Затрымайся на хвіліну перад тым, як акінуць гордым позіркам, зрабіць мімалётную і прыніжальную заўвагу, якая нараджаецца з забыцця аб чуласці, літасці і павазе да сустрэчы з іншымі, асабліва слабымі, зраненымі, а таксама ўцягнутымі ў грэх і памылкі. Затрымайся на хвіліну перад імкненнем усё кантраляваць, усё ведаць, усё знішчыць, якое нараджаецца з забыцця аб удзячнасці за дар жыцця і за мноства атрыманага дабра. Затрымайся на хвіліну перад аглушальным шумам, які аслабляе і ашаламляе нашыя вушы, прымушаючы забыцца аб плённай і творчай моцы маўчання. Затрымайся на хвіліну перад стаўленнем, якое спрыяе бясплодным і непрадуктыўным думкам, што ўзнікаюць з ізаляцыі або жалю да сябе і вядуць да забыцця аб тым, што трэба выходзіць насустрач іншым, каб дзяліць з імі цяжкасці і цярпенні. Затрымайся на хвіліну перад пустатой усяго імгненнага, кароткачасовага і мімалётнага, якое пазбаўляе нас каранёў, сувязей, каштоўнасці дарогі і ўмення заўсёды быць пілігрымамі. Затрымайся, каб глядзець і сузіраць!*

*Фрагмент гамiлii, прамоўленай у Папяльцовую сераду ў рымскай базіліцы св. Сабіны, 14.02.2018*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Пасхальная таямніца – Мука, Смерць і Уваскрасенне Хрыста – гэта найважнейшы і канчатковы доказ збаўчай любові Бога, таму што ў Езусе Усемагутны з’яднаў чалавека з сабой, здзяйсняючы справу Адкуплення. Вялікі пост павінен данесці людзям, што Стварыцель чакае ад іх адкрыцця на гэты дар Збаўлення праз асабістую ўцягнутасць у паглыбленне веры, адважнае прыняцце намагання працы над сабой, пазбаўленне ад грахоў і імкненне да жыцця паводле Божых запаведзей. Менавіта станоўчы адказ на заклік Пана да маральнага аднаўлення называем навяртаннем.*

*Першым крокам на шляху навяртання з’яўляецца прызнанне перад Нябесным Айцом уласнай грэшнасці. Гэта патрабуе вялікай пакоры і глыбокай веры. […] Толькі стоячы ў праўдзе і прызнаючы з раскаяннем свае віны, адкрываемся на Божую ласку і здольны прыняць Яго прабачэнне. Таму Усемагутны, які прагне адарыць чалавека сваёй міласэрнасцю, нястомна скіроўвае да яго заклік да навяртання.*

*Фрагмент гамiлii, прамоўленай у Папяльцовую сераду ў гродзенскай катэдры, 14.02.2018*




◆ У Ватыкане паведамілі, што папа Францішак вызваліў ад пасады ардынарыя Ахіары біскупа Петэра Эбер Окпалеке і прызначыў там часовага Апостальскага адміністратара. Гаворка пра нігерыйскую дыяцэзію, дзе ў канцы 2012 года мясцовыя вернікі і духавенства ўзбунтаваліся супраць новапрызначанага біскупа і перашкодзілі яму заняць пасаду. На дадзены момант Пантыфік не мае намеру прызначаць іншага ардынарыя для дыяцэзіі. З гэтай мэтай ён зацвярджае Апостальскага адміністратара sede vacante et ad nutum Sanctae Sedis у асобе біскупа Лусіюса Угорджы.

◆ Згодна пастанаўленню біскупа Томаса Папроцкага са Спрынгфілда (штат Ілінойс, ЗША), вернік яго дыяцэзіі, уплывовы сенатар Дэмакратычнай партыі Рычард Дарбін будзе выключаны з эўхарыстычных адносін. Такое рашэнне іерарх прыняў з-за адкрытага трывання палітыка ў цяжкім граху. Разам з іншымі 13-цю сенатарамі-католікамі ён нядаўна галасаваў супраць прыняцця закона аб забароне абортаў пасля 20-га тыдня цяжарнасці. Такім чынам, Рычард Дарбін не будзе дапушчаны да св. Камуніі, пакуль не выкажа шкадавання за свой грэх. “Я шчыра малюся, каб ён стаў на бок жыцця”, – падкрэсліў біскуп Папроцкі.

◆ Некалькі тыдняў таму з-пад завалаў касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны ў мястэчку Аркуата-дэль-Тронка (Італія) дасталі табернакль з асвечанымі Гостыямі колькасцю 40 штук. Нягледзячы на тое, што яны праляжалі амаль 1,5 года ў неспрыяльных кліматычных умовах, захавалі пастаянны колер, форму і пах, на іх не выяўлена ніякіх прыкмет псавання. Калі цудоўнасць падзей будзе пацверджана, гэта стане чарговым Эўхарыстычным цудам апошніх гадоў.

◆ Паштовую марку з выявай Багародзіцы Настаўніцы Моладзі выпусцілі ў Польшчы з нагоды 75-годдзя Марыйных аб’яўленняў на варшаўскіх Секерках. На ёй змешчаны абраз Маці Божай, шануемай пад гэтым тытулам, намаляваны Марыяй Воленберг-Клюзэ паводле апісання візіянеркі аб’яўленняў. У 1980 годзе кардынал Стэфан Вышынскі даручыў апеку над месцам аб’яўленняў разам з капліцай ордэну піяраў, харызмай якіх з’яўляецца клопат пра выхаванне дзяцей і моладзі, асабліва ўбогіх, у духу мудрасці і набожнасці.

◆ Французская актрыса, спявачка і грамадскі дзеяч Брыджыт Бардо выдала кнігу “Слёзы барацьбы”, у якой упершыню расказала пра сваё жыццё. Яна падзялілася разважаннямі аб прыродзе, чалавеку і рэлігіі. У прыватнасці, напісала пра свае асаблівыя адносіны з Марыяй і пра прыхільнасць да св. Францішка Асізскага. “Гэты святы з’яўляецца для мяне духоўным узорам, – піша Бардо. – Яго прастата, забыццё пра сябе дзеля іншага чалавека сцвярджаюць мяне ў сваім выбары”.

credo.pro; gosc.pl; niedziela.pl




# СПЯШАЦЦА РАБІЦЬ ДАБРО

● працяг са с. 1




*Традыцыйна напярэдадні свят Божага Нараджэння “Карытас” збірае падарункі для дзяцей-інвалідаў*

Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” мае больш за 120-гадовую гісторыю. Сёння яго прадстаўніцтвы ёсць ва ўсім свеце. Першы філіял “Карытас” узнік у адной з дыяцэзій Германіі. Аснову дзейнасці арганізацыі складала дапамога італьянскім сезонным рабочым, якая акрэслівалася як “нясенне службы ў духу пастырскай міласэрнасці”.

Пасля II Сусветнай вайны нацыянальныя “Карытас” дзейнічалі практычна ў кожнай краіне Еўропы і ў Амерыцы. Для каардынацыі іх дзейнасці ў 1950 годзе ў Ватыкане была створана міжнародная канфедэрацыя “Caritas Internationalis”, якая з’яўляецца членам Канферэнцыі міжнароднай каталіцкай арганізацыі і Папскага савета “Cor unum” (“Адзінае сэрца”). У дадзены момант нацыянальныя і дыяцэзіяльныя “Карытас” захоўваюць сваю аўтаномію, будучы залежнымі ад біскупскіх канферэнцый.

Нацыянальны “Карытас” Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі распачаў сваю дзейнасць у 1999 годзе. Амаль 25 гадоў мінула з часу ўзнікнення “Карытас” Гродзенскай дыяцэзіі. Сёння дыяцэзіяльнае дабрачыннае таварыства апекуецца ўсімі катэгорыямі сацыяльна неабароненых грамадзян, незалежна ад іх рэлігійнай, палітычнай, нацыянальнай і расавай прыналежнасці. У гэтым ліку шматдзетныя, няпоўныя сем’і, малазабяспечаныя, самотныя асобы, інваліды, бежанцы, беспрацоўныя, вязні і інш.

У мінулым годзе дыяцэзіяльны “Карытас” адкрыў у 5-ці парафіях святліцы – класы для катэхетычных заняткаў, у якіх дзеці могуць бавіць вольны час па-за школай. У Сапоцкіне адрамантаваны Дом міласэрнасці. У гэтым годзе распачнецца актыўнае будаўніцтва Дома спакойнай старасці для самотных пажылых людзей. Гэта адны з новых праектаў, якія ў апошні час рэалізуюцца ў дабрачынным таварыстве.

Работнікі “Карытас” рэгулярна павышаюць сваю кваліфікацыю ў Беларусі і за мяжой. Дзякуючы гэтаму працоўны працэс у арганізацыі наладжаны прадуктыўна і эфектыўна.

***✔ Штогод “Карытас” Гродзенскай дыяцэзіі ажыццяўляе 35 праектаў і праграм для ўсіх катэгорый сацыяльна неабароненых грамадзян. Ахоплівае дапамогай каля 200 тысяч патрабуючых.***

***✔ У Лідзе, Ашмянах, Смаргоні, Бярозаўцы, Слоніме, Іўі, Астраўцы, Воранаве функцыянуюць парафіяльныя “Карытас”. На іх базе рэалізуюцца паслугі ў рамках разнастайных сацыяльных, гуманітарных і адукацыйных праектаў і праграм.***

***✔ У дзейнасці дабрачыннага таварыства дыяцэзіяльнага “Карытас” удзельнічаюць больш за 100 валанцёраў. Найчасцей гэта маладыя людзі ва ўзросце 18–27 гадоў.***

*Слова “карытас” (ад лац. caritas) азначае “міласэрнасць, ахвярная любоў”. Таму дзе як ні ў дабрачынным таварыстве не па чутках ведаюць пра міласэрнасць? Прапануем работнікам “Карытас” Гродзенскай дыяцэзіі працягнуць вядомыя выслоўі пра дабрыню, шчырасць, адкрытасць.*



*Важна не тое, колькі ты робіш, а…*

## Наталля Вішнеўская,
**каардынатар валанцёраў**

*…тое, як ты гэта робіш.*

*Часам у чалавека няма магчымасці зрабіць шмат, хоць жаданне можа быць моцным. Але гэтаму заўсёды папярэднічае мэта і тое, што асоба ўкладае ў справу, якую збіраецца ажыццявіць. Вельмі важна адгукнуцца на патрэбу сэрцам. Любы добры ўчынак мае працяг – нясе бліжняму радасць, свет, а самому дабрадзею пакідае адчуванне душэўнага задавальнення.*

*Усе вялікія справы – сукупнасць шматлікіх маленькіх. Гэта падобна на ніткі, з якіх складаецца суцэльная сетка. І ўсе яны аднолькава важныя! Часам чалавек не здольны дапамагчы камусьці самастойна, але ён можа падказаць іншага чалавека ці месца, дзе таму абавязкова падставяць плячо. Такім чынам асоба таксама прычыняецца да вялікай справы суцяшэння чалавека ў патрэбе. І яе ўклад у гэтым выпадку неацэнны.*

*У “Карытас” працуюць валанцёры, якія праз удзел у сацыяльных акцыях ахвяруюць для патрабуючых свой час і сілы, цярпенне і душэўную цеплыню. Дзякуючы таму, што такая дзейнасць трымаецца на дабрачынных пачатках, тут кожны жэст увагі і клопату на вагу золата. Трэба адзначыць, “Карытас” заўсёды адкрыты на новыя прапановы! Мы з надзеяй чакаем людзей, гатовых падзяліцца часцінкай свайго сэрца з патрабуючымі.*

***“Важна не тое, колькі ты робіш, а колькі любові ўкладваеш у свае дзеянні”.***

*Св. Маці Тэрэза з Калькуты*



*Хто траціць магчымасць зрабіць добрую справу…*

## Ян Кот,
**спецыяліст па сувязях з грамадскасцю**

*…заўтра ўжо можа не мець такой магчымасці.*

*Па-першае, заўтра можа не стаць таго, каму патрэбна дапамога, – гаворым пра рызыку не паспець са здзяйсненнем добрай справы. Па-другое, заўтра можа не наступіць і для нас. Па-трэцяе, дакладна не ведаем, ці будзем валодаць пэўнымі рэсурсамі для аказання дапамогі пасля. Вельмі важна адкрывацца на іншага чалавека, інакш свет ахіне цемра. Зла і так шмат паўсюль…*

*“Карытас” пайшоў далей – ён шукае такой магчымасці. Пры дабрачынным таварыстве дзейнічае мабільная дапамога. Мы шукаем людзей, якія маюць у нечым патрэбу. Часцей за ўсё робім гэта праз пробашчаў, якія добра ведаюць сваіх парафіян. Па магчымасці падтрымліваем патрабуючых матэрыяльна і духоўна. Часцей за ўсё прадуктамі, рэчамі першай неабходнасці, адзеннем. Сутнасць мабільнай дапамогі палягае на тым, што незалежна ад месца знаходжання чалавека, мы прыедзем да яго і акажам неабходную падтрымку. Калі пэўная асоба не можа прыйсці сама, “Карытас” прыедзе да яе.*

*Мяркую, кожнаму з нас варта спяшацца рабіць дабро, выкарыстоўваючы для гэтага любую магчымасць.*

***“Хто траціць магчымасць зрабіць добрую справу, падобны да чалавека, што выпускае з рукі птушку, бо яна ўжо ніколі не вернецца”.***

*Св. Ян ад Крыжа*



*Калі знішчыцца міласэрнасць на зямлі, то…*

## Ганна Таўкун,
**сакратар**

*…у нашых душах знікне радасць.*

*Міласэрнасць – гэта праява любові да бліжняга. Яна прыносіць людзям радасць, узбагачае душу, напаўняе яе светам і дабрынёй. А калі мы радуемся, то ўсё ў нас атрымліваецца. І жывём па-іншаму, па-іншаму глядзім на нейкія рэчы, інакш усё ацэньваем.*

*Напярэдадні Новага года ў рамках аднаго з нашых сацыяльных праектаў я разам з валанцёрамі і іншымі работнікамі “Карытас” ездзіла ў дзіцячы сад, які наведваюць дзеці з праблемамі апорна-рухальнага апарату. Мы падрыхтавалі для хлопчыкаў і дзяўчынак падарункі. Сумесна бавілі час: чыталі кнігі, яны расказвалі нам вершы. Тыя дзеці падаліся мне “маленькімі сонейкамі”. Такія адкрытыя, добразычлівыя… Глядзіш на іх і іх бацькоў ды разумееш: людзі з рознымі бедамі ўмеюць так шчыра радавацца жыццю! Гэта прымушае задумацца над тым, што кожны з нас павінен цаніць усё, што мае. Заўсёды ёсць нагода штодня за нешта сказаць Богу “дзякуй”. І калі пра гэта забываемся, такія выпадкі вяртаюць у сапраўдную рэальнасць, змушаючы засяродзіцца на найважнейшым у жыцці.*

*Перакананая, што міласэрнасць аднолькава неабходна як патрабуючаму боку, так і тым, хто яе аказвае. Мы вучымся адзін у аднаго, пераймаючы нейкія праўды жыцця. На міласэрнасці ўсё трымаецца! А калі яе не стане, на зямлі знікне любоў да бліжняга, Бога. Мы духоўна абяднеем і будзем падобныя да машын, у якіх няма сэрца, у адрозненне ад чалавека, што робіць яго адчувальным на іншых.*

***“Калі знішчыцца міласэрнасць на зямлі, то ўсё загіне і вынішчыцца”.***

*Св. Іаан Златавуст*

*Ангеліна Пакачайла*

# Паслуга сясцёр серафітак: занесці любоў Стварыцеля патрабуючым


Дапамога сясцёр мае як матэрыяльнае, так і духоўнае вымярэнне


Манахіні заахвочваюць маладых людзей нястомна паглыбляць сваю веру

• працяг са с. 1

### ПАЧАТКІ СЛУЖЭННЯ Ў БЕЛАРУСІ

Яны былі складанымі. Мы прыехалі ўдзвёх у 1990 годзе і распачалі працу на Віцебшчыне, у Дуніловічах. Касцёл там быў зруйнаваны, вернікаў было зусім мала. Шукалі людзей, размаўлялі з імі ў парках, крамах, школе, на плошчах – і рэлігійнае жыццё паступова адраджалася. Трэба адзначыць, што ў той час асобы, якіх мы сустракалі, былі ўспрымальнымі, шукалі Бога і імкнуліся да Яго.

Праз 2,5 гады працы на Віцебшчыне мы прыехалі ў Гродзенскую дыяцэзію, у Сапоцкін. Тут было значна лягчэй. Аднак таксама трэба было шмат папрацаваць, каб заваяваць аўтарытэт сярод людзей. Спачатку “збіралі” дзяцей: хадзілі па дамах, тлумачылі абавязковасць сістэматычнага пазнання Бога на катэхезе. Трохі пазней арганізавалі малітоўныя групы. Некаторыя з іх існуюць да гэтага часу.

### САПОЦКІН – ГОРАД НАШАЙ ЛЮБОВІ

Гэта невялікае маляўнічае мястэчка, якое размяшчаецца паміж пагоркамі, акружанае азёрамі і прыгожай зелянінай. Мы спяваем пра яго так: “Сапоцкін – горад маёй любові, Сапоцкін – слаўны сваёй гасціннасцю, Сапоцкін – гэта сэрца на далоні, раздаваемае ўсім навокал”. І ўсё сапраўды так.

Тут жывуць простыя, высакародныя, добрыя людзі. Жывуць небагата, але адкрываюцца на больш патрабуючых, чым яны самі, і спяшаюць ім на дапамогу, праяўляюць гасціннасць і ахвярнасць, любяць малітву. Шануюць традыцыі і берагуць культуру, кахаюць Бога, Касцёл. Клапоцяцца аб знешнім выглядзе святыні, прыбіраюць яе, рамантуюць, даглядаюць агародзік пры касцёле, прыносяць кветкі. Далучаюцца да кожнай парафіяльнай ініцыятывы. Вельмі любяць ездзіць у пілігрымкі, падчас якіх добра інтэгруюцца. Ахвотна прымаюць удзел у прадстаўленнях, падрыхтаваных сёстрамі, дзецьмі і моладдзю.

На сённяшні дзень наша парафія налічвае каля 3-ох тысяч вернікаў. Тут служаць 3-ое святароў і 3 манаскія сястры.

### ХАРЫЗМА СУПОЛЬНАСЦІ

Паслуга серафітак усюды падобная – дзе ўбогія, адзінокія, згубленыя (тыя “меншыя”), там стараецца быць сястра з нашай супольнасці, каб занесці любоў Стварыцеля патрабуючым. “Працу сярод бедных і хворых лічым асаблівым дарам Божым для нашай супольнасці”, – гаворыцца ў Канстытуцыі Кангрэгацыі.

Для сястры серафіткі служэнне ўбогім знаходзіцца на першым месцы. Вельмі важнае значэнне таксама маюць яе асабістыя адносіны да патрабуючага чалавека. Па меры сваіх магчымасцей кожная сястра шукае спосабы, каб схіліцца над убогім. Не заўсёды яна выконвае гэтую канкрэтную паслугу, аднак заўжды мае магчымасць малітвы і ахвяравання свайго цярпення за патрабуючых.

***Кангрэгацыя Дачок Маці Божай Балеснай (серафіткі) узнікла ў 1881 годзе. Заснавана ў Закрочыме (Польшча) бл. а. Ганаратам Казмінскім OFMCap і бл. Малгажатай Шэўчык. Паслуга сясцёр скіравана на карысць несамастойных людзей, невылечна хворых, пажылых асоб і дзяцей-інвалідаў. Серафіткі таксама працуюць катэхеткамі, медсёстрамі, выхавацельніцамі ў дзіцячых садках, канцылярысткамі, арганісткамі, закрыстыянкамі. Манаская супольнасць мае свае місійныя пляцоўкі ў Габоне і Балівіі. Сёстры нясуць паслугу таксама ў ЗША, Францыі, Швецыі, Італіі, Беларусі і на Украіне.***


Сёстры рыхтуюць дзяцей да першых сакрамантаў, напаўняючы іх сэрцы Божай любоўю



***У 2018 годзе с. Гарэцці Міленкевіч адзначае 50-гадовы юбілей з моманту ўступлення ў Кангрэгацыю Дачок Маці Божай Балеснай. Манахіня дзеліцца гісторыяй свайго паклікання і разважае над тым, якія вялікія справы здзейсніў у ёй Бог.***

*Я нарадзілася ў Номіках, непадалёк ад Кузніцы Беластоцкай. Была старэйшай сярод дзяцей, мела 6 сясцёр і брата.*

*У нашай сям’і не было нядзелі без св. Імшы. Пасля Эўхарыстыі бацькі пыталіся, аб чым было Евангелле і што ксёндз гаварыў падчас казання. Кожную раніцу мы прачыналіся на спеў Гадзінак, а вечарам разам адгаворвалі Ружанец, які ўзначальваў тата. Ва ўзросце 3-ох гадоў падчас душпастырскага візіту я спявала Гадзінкі. У Вялікім посце мы адпраўлялі дома набажэнства Песняў жальбы, па пятніцах – Крыжовы шлях, на які прыходзілі суседзі. Мая сям’я не была надта заможнай, але бацькі стараліся зрабіць нас адчувальнымі да патрэб іншых і пацвярджалі гэта на ўласным прыкладзе, падтрымліваючы бяднейшых за сябе.*

*Я была складаным дзіцём, мела тысячы задум у хвіліну. Магла ўвесь клас сарваць з урока, каб пайсці на парафіяльны адпуст. Зімой знакам таго, што вярнулася школы, быў пакінуты на ганку рукзак, а сама я да вечара гойсала на катку на каньках або ў гарах на лыжах. Куртка была мокрай да наступнага дня, а чаравікаў хапала адно на 2 тыдні. Мама часта казала: “Што з цябе вырасце?”.*

*Ужо ў 5-ым класе я думала аб тым, каб пайсці ў кляштар. Але як з такой “стыхіяй” справяцца ў супольнасці? Калі расказала аб сваім намеры маме, яна адказала: “Дзіця, ты б гэты кляштар разнясла. Не, ты не падыходзіш для манаства”.*

*“Складана”, – падумала я тады, але пастанавіла, што буду прасіць Езуса, каб сфарміраваў мяне, змяніў, адарыў ласкай. Пачала таксама працаваць над сабой. Па вечарах закрывалася ў пакоі і горача малілася аб ласцы перамены і манаскага паклікання. Падчас кожнай св. Імшы ў момант пераісточання прасіла аб дары перамены і кожную малітву заканчвала просьбай, каб стаць сястрой, калі на гэта ёсць Божая воля.*

*Ва ўзросце 16-ці гадоў я накіравалася ў супольнасць серафітак, і была прынятая. Увесь час дзякую Пану, што паклікаў мяне, адарыў і нястомна адорвае ласкамі. Цяпер мне думаецца, што ў кляштары не павінны быць толькі самыя прыгожыя, самыя лепшыя і самыя спакойныя дзяўчаты. Доказам гэтаму з’яўляюся я. Пан Бог здольны пісаць роўна на крывых лініях. Яму хвала на вякі.*

*Служэнне хворым, церпячым і пакінутым, спадарожнічанне гэтым асобам у іх нялёгкай штодзённасці, падтрымка ў адзіноце, бездапаможнасці, уздыманне на духу, калі няма нікога, хто б іх выслухаў, выцер слёзы, прынёс надзею – вось, што з’яўляецца радасцю для мяне. Цешуся, калі бачу ў вачах адзінокай асобы іскрынку радасці з-за таго, што я наведала яе, а таксама калі мне дадзена быць побач з такімі людзьмі, нейкім чынам спадарожнічаць ім у апошнія моманты жыцця. Цешуся, калі людзі, якія згубіліся або жывуць у несакраментальных саюзах ці залежаць ад дрэнных звычак, вяртаюцца ці спрабуюць вярнуцца на правільны шлях, калі з Божай дапамогай прабачаюць даўнія траўмы. Цешуся, калі бачу сваіх былых вучняў, як яны, ужо будучы бацькамі, прыводзяць сваіх дзяцей да Бога, жывуць Евангеллем і даюць сапраўднае сведчанне хрысціянскага жыцця. Я ўдзячна Пану за кожнага чалавека, якога сустракаю, і малюся, каб мы разам былі калісьці ў Небе.*

*Цешуся таксама кожным пражытым днём, кожнай Эўхарыстыяй, падчас якой штодзённа вучуся разам з Хрыстом аддаваць сябе ў дары і быць у Яго распараджэнні. Езус – мая моц, любоў, матывацыя, Дарога, Праўда і Жыццё. Не аднойчы Бог – патрабавальны Айцец – вядзе вельмі цяжкай дарогай, але таксама падтрымлівае ў кожную хвіліну. У Ім, з Ім і праз Яго я моцная. “Усё магу ў Тым, хто мяне ўзмацняе!” (Філ 4, 13).*

*Кс. Юрый Марціновіч і Ангеліна Пакачайла*

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

**CatholicNews.by**

### У Бэтлееме падрыхтуюць ружанцы для ўдзельнікаў СДМ

**Ружанцы будуць зроблены сем’ямі, якія знаходзяцца ў патрэбе, маладымі людзьмі, што не маюць працы, бежанцамі. Гэтая ідэя з’яўляецца адказам на жаданне папы Францішка, каб моладзь далучылася да малітвы за мір.**

“Для таго, каб маліцца Ружанцам, неабходна мець сам ружанец. Было 2 магчымасці вырашыць гэтае пытанне. Па-першае, можна было замовіць танныя ружанцы з Кітая. Па-другое, зрабіць ружанцы з аліўкавага дрэва, сімвала міру, якое расце ў Бэтлееме, пры дапамозе мясцовых жыхароў. І менавіта па гэтай прычыне мы абралі 2-ое рашэнне”, – патлумачыў біскуп Пір Бёрчэр.

Кожны ўдзельнік Сусветных дзён моладзі атрымае 3 ружанцы: для сябе, для таго, каго сустрэне ў Панаме, і для жыхара сваёй краіны.




### Парэшткі Магдалены Радзівіл перапахаваны ў Беларусі

**Прах вядомай мецэнаткі пачатку XX стагоддзя перавезены са Швейцарыі ў мінскі Касцёл Найсвяцейшай Тройцы.**

На св. Імшы, пасля якой адбылася цырымонія, прысутнічалі вернікі, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, а таксама нашчадкі рода Радзівілаў – браты Мікалай і Мацей.

Магдалена Радзівіл нарадзілася ў Варшаве (Польшча), але з Беларуссю яе звязала шмат чаго: карані бацькоў, радавыя маёнткі, дзяцінства, шлюб з Мікалаем Радзівілам, актыўная грамадская і дабрачынная дзейнасць. У 1918 годзе княгіня пакінула Беларусь, але заўсёды марыла вярнуцца.




### Калізей у колеры крыві

**У першую суботу Вялікага посту рымскі Калізей асвятлілі чырвоным колерам. Ён павінен быў звярнуць увагу на лёс хрысціян, праследуемых у розных краінах.**

У непасрэдным суседстве з Калізеем адбыўся мітынг памяці аб вызнаўцах Хрыста, якія падвяргаюцца ганенням. У ім прынялі ўдзел, між іншым, муж і дачка Асіі Бібі – пакістанскай каталічкі, асуджанай у 2009 годзе на смерць за (нібыта) абразу ісламу.

У той жа час падобная ілюмінацыя асвяціла 2 іншыя хрысціянскія святыні ў сімвалічных месцах праследаванняў: катэдру св. Паўла ў Мосулі (Ірак) і мараніцкі касцёл св. Іллі ў Алепа (Сірыя).




### *Чаму вернікам не ўдзяляюць св. Камунію ў постаці віна?*

*Падчас прыняцця Гостыі вернікі рэальна яднаюцца з Езусам, які адкупіў чалавецтва сваім жыццём. Кансэкрацыя хлеба і віна ўказвае на тое, што Хрыстос аддаў сябе на Кальварыі да самага канца, да кровапраліцця. Таму св. Камунія з'яўляецца поўнай і ў тым выпадку, калі прымаем яе толькі пад відам хлеба.*

*Нават у тыя часы, калі ўдзяленне св. Камуніі ў 2-юх постацях было вельмі распаўсюджанай з'явай, святар, калі збіраўся да хворага дадому, браў з сабою Камунію толькі пад выглядам хлеба. І ніхто нават не думаў, што ў дадзенай форме Эўхарыстыі можа чагосьці не хапаць. Але як здарылася так, што ў пэўны момант Заходні Касцёл вырашыў удзяляць св. Камунію толькі ў постаці хлеба? Гэта адбылося ў XII ст. па некалькіх прычынах:*

- *Менавіта ў той час у Касцёле шырока развілася эўхарыстычная набожнасць. Людзі больш чым раней непакоіліся пра тое, што падчас удзялення св. Камуніі ў постаці віна маленькая кропля можа ўпасці на зямлю або ксёндз часам несвядома нахіліць келіх і г. д.*
- *На гэтую змену, безумоўна, мелі ўплыў і цяжкасці, звязаныя са здабыццём віна.*
- *Важную ролю ў адмаўленні ад удзялення св. Камуніі пад выглядам віна мела і тая акалічнасць, што ў Новым Запавеце хлеб у сакраманце Эўхарыстыі прадстаўлены як першасны (асноўны) элемент, а віно – як дадатковы.*

*Ці адрозніваецца Камунія ў 2-юх постацях ад Камуніі ў 1-ой з іх? Так. Але розніца заключаецца толькі ў памеры сакраментальнага знаку, сімволікі. І ніяк не ўплывае на памер ласкі, якая ўдзяляецца праз дадзены сакрамант. Ва ўводзінах да Рымскага Імшала гэта тлумачыцца наступным чынам: "Прыняцце св. Камуніі пад 2-ма постацямі становіцца больш поўным выразам праз вымову знаку (ratione signis pleniorem). У дадзенай форме паказваецца ў дасканалым святле знак эўхарыстычнай гасціны і ясна выражаецца воля завяршэння новага і вечнага запавету ў Крыві Пана; таксама падкрэсліваецца сувязь паміж эўхарыстычнай гасцінай і канчатковай гасцінай у Нябесным Валадарстве" (№ 240).*

*Тут жа ўзгадваюцца ўсе выпадкі, калі, карыстаючыся сілай паўсюднага закона, можна ўдзяляць св. Камунію ў 2-юх постацях. Найбольш часта сустракаюцца наступныя сітуацыі: сужэнцам падчас шлюбу ў спалучэнні са св. Імшой; дыяканам падчас св. Імшы пасвячэння; асобам, якія складаюць манаскія абяцанні або аднаўляюць іх падчас літургіі; падчас Эўхарыстыі ў доме хворага і падчас св. Імшы, якая цэлебруецца для розных душпастырскіх груп.*

*На заканчэнне трэба адзначыць, што сёння назіраецца выразная тэндэнцыя да распаўсюджвання практыкі ўдзялення св. Камуніі ў 2-юх постацях.*

*Кс. Андрэй Лішко*
***Паводле grodnensis.by***

# Плённыя рэкалекцыі, або наладжванне жывых адносін з Богам



***Падчас Вялікага посту ў кожнай парафіі праходзяць рэкалекцыі. Якой мэце яны служаць? У чым небяспека ігнаравання духоўных практыкаванняў для верніка? І як належным чынам падрыхтавацца да іх плённага перажывання? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае кс. Віктар Ханько, пробашч парафіі Маці Божай Тройчы Цудоўнай у Мастах.***

***– Як у Касцёле з'явілася традыцыя правядзення рэкалекцый для вернікаў?***

– У паўсядзённым жыцці мы маем мала часу, каб задумацца над глыбокімі вымярэннямі. У жыццё, у тым ліку і духоўнае, пранікае "аўтаматызм". Падчас рэкалекцый (з лац. recollectio – "зноў збіраць, прымаць") мы вяртаемся да чагосьці, што ўжо пройдзена, але што яшчэ неабходна пераасэнсаваць, над чым належыць паразважаць.

Ідэальным запрашэннем да духоўных практыкаванняў могуць быць словы св. апостала Яна з Кнігі Апакаліпсіса (2, 2. 4–5): "Ведаю справы твае, і працу тваю, і цярплівасць тваю [...] Але маю супраць цябе тое, што ты пакінуў першую любоў. Таму ўзгадай, адкуль ты ўпаў, і пакайся, і рабі так, як ты рабіў спачатку".

***– Якія матывы часцей за ўсё гучаць падчас канферэнцый?***

– Амаль заўсёды на рэкалекцыях закранаюцца тэмы сапсаваных адносін у сям'і, сувязей паміж бацькамі і дзецьмі. Многія людзі на споведзі пра гэта не гавораць, а ўнутры кожнага ўкрыта столькі болю, слёз, пачуцця адрынутасці, адзіноты. Шмат хто прыходзіць з вялікім душэўным цяжарам, у дэпрэсіі.

Падчас рэкалекцый я звяртаю ўвагу на 3 важныя моманты пакаяння або, скажам, на 3 прычыны, чаму сёння ў людзей розныя праблемы, беды, няшчасці, хваробы, сямейная бязладзіца. Першы момант – грэх і яго наступствы. Людзі не ўяўляюць сапраўдных маштабаў зла, думаючы, што "мой грэх – гэта толькі маё". Але любы грэх шкодзіць як самой асобе, так і акружаючым. Другім момантам з'яўляюцца раны. Нярэдка на споведзі вернікі называюць толькі факты, дрэнныя ўчынкі, не заглядваючы ў корань сваіх дзеянняў. А высвятляецца, што ў сэрцах людзей шмат непрабачэння, неразумення, помсты, бунту, лютасці. З-за болю і крыўды чалавек часцей за ўсё і здзяйсняе свае грахі. Трэці момант – грахі акультызму. Асаблівая ўвага на рэкалекцыях надаецца забабонам, акультызму, магіі, варажбе, гараскопам, атэізму. У менталітэце і паводзінах нашых людзей прысутнічае рэха паганства. Важна данесці чалавеку следства невыканання І Божай запаведзі.

> ***Шмат хто не ўсведамляе свой грэх. Але калі набліжаецца да Божай любові, усё зло, схаванае ў ім, пачынае выкрывацца. Людзі адкрываць праўду пра сябе, пра іншых і, вядома, пра Створцу.***

Менавіта адтуль, здараецца, і цягнуцца пачаткі шматлікіх праблем у жыцці.

***– Ці неабходна нейкая падрыхтоўка перад рэкалекцыямі?***

– Вельмі часта чалавека закрывае на Бога ганарыстасць. Назіраем яе праявы, калі чуем ад некага: "Я ведаю", "Я ўсё гэта праходзіў", "Не вучыце мяне" і г. д. Неабходна запрашаць Езуса ў сваё сэрца! Прасіць Святога Духа, каб паставіў нас у праўдзе, каб змаглі ўбачыць свае грахі, слабасці, пакаяцца і атрымаць прабачэнне. Таму найважнейшае, лічу, перад распачаццем рэкалекцый – даць свядомую згоду на тое, каб Бог дзейнічаў у нашым жыцці.

***– На чым палягае галоўная мэта рэкалекцый?***

– Падчас адной са штомесячных малітоўных сустрэч у Мастах пасля св. Імшы мы разам з вернікамі памаліліся над дзеткамі, а потым папрасілі іх, каб падышлі да прыступных дарослых і абнялі іх. Некаторыя пасля такога жэсту расчуліліся і заплакалі. Пасля падзяліліся тым, як упершыню праз абдымкі дзяцей адчулі сапраўдную любоў Бога. Тым самым мы паказалі галоўную праўду веры, што Бог ёсць Любоў.

Сёння важна быць не проста "настаўнікамі веры", але сваім жыццёвым прыкладам сведчыць пра жывога і любячага Стварыцеля. Канешне, веды пра Найвышэйшага вельмі неабходныя. Трэба чытаць духоўную літаратуру, Святое Пісанне, тлумачэнне да яго. Але даросламу чалавеку мала толькі казаць пра Бога, або, інакш, катэхізаваць. Ён можа застацца на ўзроўні вучня, які вывучыў пэўны ўрок, здаў і забыў. Трэба ажыўляць яго веды пры дапамозе Святога Духа.

Мэта рэкалекцый якраз і палягае на тым, каб не проста распавесці чалавеку падчас канферэнцый пра фундаментальныя праўды веры, але і прасіць Святога Духа, каб Ён адкрыў людское сэрца на гэтыя праўды. Так вернік наладжвае жывыя адносіны з Богам, запрашаючы Яго ў сваё жыццё.

***– Якія ўмовы рэкамендуецца выконваць, каб перажыць рэкалекцыі найбольш плённа?***

– Для таго, каб глыбока перажыць дні малітвы і разважанняў над Божым словам, Багародзіца дае нам "5 духоўных вітамінаў". Па-першае, гэта малітва сэрцам. Ранішнія і вячэрнія малітвы часта адгаворваюцца ў спешцы, а Бог хоча, каб мы былі перад Ім, як дзеці, не толькі складвалі свае просьбы, але і слухалі Яго сэрца. Па-другое, гэта малітва на ружанцы. Ва ўсіх яго таямніцах можам знайсці сябе і такім чынам убачыць і адчуць Бога ва ўласным жыцці. Па-трэцяе, сакраманты споведзі і Эўхарыстыі. Прымаючы Цела Хрыста, духоўна і фізічна набліжаемся да Створцы. Па-чацвёртае, пост. У такія дні чалавек можа заўважыць рэчы, якія адцягваюць яго ад Усемагутнага. Па-пятае, Святое Пісанне. Гэта словы і голас Госпада, якія пранікаюць у розум і сэрца, умацоўваючы веру. Часам людзі прыходзяць прасіць дапамогі ў сваіх праблемах і скардзяцца, што Бог іх не чуе, ніяк да іх не прамаўляе. А самі тым часам нават не маюць дома Бібліі.

***– Чаму для верніка так важна не прапускаць рэкалекцыі?***

– На гэты конт хочацца прыгадаць словы святара з Польшчы, кс. Марэка Балваса. Ён стаў вядомым дзякуючы канферэнцыям, у якіх распавядае пра СМС, які атрымліваў ад д'ябла. Нячысты – вядома, пад уздзеяннем Усявышняга – падзяліўся тым, у чым ніколі б не прызнаўся нам, людзям. А менавіта, што працуе над знішчэннем Божага жыцця ў чалавеку 24 гадзіны ў суткі: спакушае "заўсёды, усюды, кожнага без выключэння, нягледзячы ні на што". Інакш кажучы, няма вольнай хвіліны ад д'ябальскай спакусы. Таму страшна, калі хтосьці гаворыць: "Навошта штодня хадзіць у касцёл?" або "Навошта кожны дзень чытаць Святое Пісанне?", "Навошта часта маліцца Ружанцам?".

Трэба адзначыць, што галоўнай стратэгіяй д'ябла ў сучасным свеце з'яўляецца не тое, каб усіх зрабіць злымі, забойцамі або злодзеямі. Яму дастаткова, каб чалавек жыў так, быццам усё залежыць ад яго самога, што ён сам цар і бог свайго жыцця. Часта людзі маюць менавіта такія вось "панцыры" ад злога – закрытасць, эгаізм, прагу выгоды. І можна нават хадзіць у касцёл, маліцца і прыступаць да споведзі, але не адкрываць свайго сэрца на Бога, не шукаць Яго. Рэкалекцыі з'яўляюцца адным з тых сродкаў, якія дапамагаюць наладзіць глыбокую сувязь з Усемагутным. Галоўным вынікам духоўных практыкаванняў, што палягаюць на ўдзеле ў св. Імшы, малітве, слуханні рэкалекцыйных казанняў, споведзі, павінна быць ачышчанае сэрца чалавека, якое прагне ўзрастаць у Божай любові.

***– На гэтым, напэўна, і заснуўваецца наша вера?***

– Так. Веруючы чалавек – гэта той, які на ўласным вопыце адчуў, што Усемагутны яго любіць. І ён не проста разумее гэта, а штодня "купаецца" ў Божай любові, мае асабістыя адносіны з Усявышнім. Гаворка не пра традыцыі святкавання Божага Нараджэння і Вялікадня, удзел у штотыднёвай св. Імшы, адгаворванні малітваў раніцай і ўвечары, посце па пятніцах... Такія адносіны палягаюць на пастаянным паглыбленні Божай любові. І таму ўсе жыццёвыя дзеянні верніка набываюць адзіны матыў – Любоў.

*Ангеліна Пакачайла*

НАВІНЫ



## Міжнародная сустрэча скаўтаў у Гродне

Міжнародная сустрэча каталіцкіх скаўтаў Еўропы адбылася ў моладзевым цэнтры парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. Яе ўдзельнікаў з Беларусі і Польшчы блаславіў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

На сустрэчу былі запрошаны не толькі тыя, хто непасрэдна займаецца скаўтынгам, але і бацькі, чые дзеці ўдзельнічаюць у скаўцкім руху. Мамы і таты з'яўляюцца вялікай дапаможнай сілай, асабліва на першай ступені выхавання дзяцей (8–11 гадоў).

Пашырэнне скаўцкага руху і выхаванне дзяцей і моладзі праз скаўтынг – тое, што зараз вельмі актуальна для Касцёла і грамадства ў цэлым. Менавіта так можна акрэсліць асноўную ідэю сустрэчы, падчас якой прадстаўнікі дэлегацыі з Польшчы дзяліліся з беларусамі сваім вопытам у скаўцкім служэнні.

Сустрэча скончылася Гадзінай Святла (так у скаўтаў называецца малітва перад Найсвяцейшым Сакрамантам) і супольнай Эўхарыстыяй.

Паслугі лектарату і акалітату прынялі навучэнцы 3-га і 4-га курсаў Гродзенскай ВДС. Урачыстая падзея адбылася ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Яе ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

З гэтага моманту лектары пакліканы не толькі абвяшчаць жыццядайную моц Святога Пісання з амбоны падчас Эўхарыстыі, але і чэрпаць з Божага слова веру і адвагу для здзяйснення штодзённых абавязкаў. Акалітаў, у сваю чаргу, Касцёл палічыў годнымі дакранацца да Найвялікшай Таямніцы хрысціянскай веры, каб яны маглі яшчэ больш прыпадобніцца да свайго Настаўніка Езуса Хрыста.

Навучэнцы 5-га курса сталі кандыдатамі да прыняцця пасвячэння дыяканату. Цяпер алюмнаў чакае падрыхтоўка да заданняў, якія Касцёл у будучыні паставіць перад імі, а менавіта абвяшчэння Божага слова, дапамогі святару падчас цэлебрацыі літургіі, а таксама служэння найбольш патрабуючым.

АДНЫМ РАДКОМ

• Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч прыняў удзел у практычным семінары на тэму кіравання чалавечымі рэсурсамі, які адбыўся ў Еўрапейскім цэнтры камунікацыі і культуры ў Варшаве (Польшча). • Вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе (дэканат Масты) падчас супольнай малітвы дзякавалі Богу за дар сваёй святыні, 245-ую гадавіну кансэкрацыі якой будуць адзначаць сёлета. • У парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку адбылося аднаўленне святых місій. • Сустрэча членаў літургічнай службы алтара, у якой прынялі ўдзел юнакі з Бараўлянаў, Дзятлава, Мінска і Смаргоні, прайшла ў Смаргоні. • Зборная святароў Гродзенскай дыяцэзіі па міні-футболе сыграла таварыскія матчы з камандай ветэранаў, трэнераў і дзейных гульцоў ФК "Слонім-2017" і камандай Навагрудскага раённага аддзела ўнутраных спраў, у якіх пацярпела паражэнне і здабыла перамогу адпаведна.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***
*Выкарыстана фота* ***catholic.by.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**10 сакавіка 1932 г.** – кс. Вінцэнт Сідорскі, *проб. Дуды;*
**10 сакавіка 1943 г.** – кс. Аляксандр Аўгустыновіч, *проб. Нецеч;*
кс. Альфонс Бароўскі, *проб. Ляцк;*
кс. Францішак Цыбульскі, *проб. Трабы;*
кс. Стэфан Дабравольскі, *проб. Беліца;*
кс. Вінцэнт Лабан, *проб. Ліда;*
кс. Люцыян Мрачкоўскі, *вік. Ліда;*
кс. Юрый Ажароўскі, *проб. Ліпнішкі;*
кс. Стэфан Снягоцкі, *вік. Ліда;*
**12 сакавіка 1969 г.** – кс. Ян Велькевіч SDB, *проб. Дзятлава.*

АНОНСЫ

## РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ ПРОЙДУЦЬ У АДАМАВІЧАХ

**Духоўныя практыкаванні для дзяўчат ад 14-ці гадоў правядуць сёстры кармэліткі ад Дзіцятка Езус.**

Рэкалекцыі на тэму "48 гадзін з Езусам Укрыжаваным" адбудуцца з 8 па 10 сакавіка. Пачатак у 13.00.
З сабой неабходна мець змены абутак і Біблію.
Колькасць месцаў абмежаваная.

*Аб сваім жаданні прыняць удзел у духоўных практыкаваннях трэба паведаміць па нумарах: (8 029) 884-39-67, с. Ідалія; (8 029) 267-13-03, с. Паўліна.*

## НАБАЖЭНСТВЫ КРЫЖОВАГА ШЛЯХУ Ў АБАРОНУ ЖЫЦЦЯ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Разважаючы над Мукай Езуса, удзельнікі малітоўнай групы "У абарону жыцця" будуць разважаць над праблемай і наступствамі абортаў. Арганізатары таксама закрануць тэмы асаблівых дзяцей, бяздзетных сем'яў, супярэчнасцей працы медыцынскага персаналу з верай, бязмежнай Божай любові, прабачэння, служэння і інш.**

Праграма набажэнстваў Крыжовага шляху ў абарону жыцця:

**9 сакавіка**

19.30 – парафія Божай Міласэрнасці (Вішнявец)

**16 сакавіка**

18.00 – парафія св. Францішка Ксаверыя (катэдра)

18.30 – парафія Святога Духа (Альшанка)

**23 сакавіка**

18.00 – парафія Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці (Аўгустовак)

*Удзельнікі малітоўнай групы заахвочваюць вернікаў да супольнай малітвы.*

## КРЫЖОВЫ ШЛЯХ ВУЛІЦАМІ ГОРАДА ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**Традыцыйнае набажэнства, якое праводзіць моладзь, адбудзецца 24 сакавіка. Распачнецца св. Імшой у 19.00 у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Пасля вернікі пройдуць па Савецкай плошчы да Пабернардынскага ўзгорка, разважаючы над стацыямі Крыжовага шляху Езуса Хрыста.**

*Удзельнікам просьба прынесці з сабой свечкі.*

## ПАРАФІЯ Ў КАРОБЧЫЦАХ АРГАНІЗУЕ АЎТОБУСНЫЯ ПІЛІГРЫМКІ Ў ПОЛЬШЧУ

**Парафія св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах (дэканат Гродна-захад) ладзіць паломніцтвы на Ясную Гару і ў Святую Ліпку.**

*На Ясную Гару арганізуецца І пілігрымка членаў Апостальства дапамогі чысцовым душам. Яна плануецца 7–10 чэрвеня.*
***Маршрут:*** *Гродна – Кракаў – Кальварыя Зэбжыдоўская – Чанстахова – Гродна.*

*Пілігрымка ў Святую Ліпку адбудзецца 26–29 ліпеня.*
***Маршрут:*** *Гродна – Святая Ліпка – Гетшвальд – Гданьск – Гдыня – Гродна.*

Заахвочваюцца ўсе жадаючыя.

*Тэлефоны для даведак: (8 0152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24.*

У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі **спадара Рахмана Сяргея,** які 8 мая 1993 года ў парафіяльным касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе заключыў сужэнскі саюз са **спадарыняй Каплун Ірынай,** просім звярнуцца ў сядзібу Касцёльнага суда ў Гродне (вул. К. Маркса, 4) або па тэлефоне (8 0152) 75-64-37. Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра месца побыту спадара Рахмана Сяргея, просім перадаць гэтую інфармацыю ў Касцёльны суд.

## Каляндар падзей

***4 сакавіка***
*Нацыянальны дзень "Карытас". Падтрымаем малітвай і ахвяраваннямі дабрачынныя таварыствы.*

***8 сакавіка***
*Міжнародны жаночы дзень. Молімся ў інтэнцыі ўсіх дзяўчат і жанчын.*

***11 сакавіка***
*IV Нядзеля Вялікага посту, называемая "нядзеляй радасці" (Laetare).*

***13 сакавіка***
*5-ая гадавіна абрання Святога Айца Францішка на Апостальскі Пасад. Молімся за Папу, каб яго пастырская паслуга прынесла шчодры плён.*

***У Вялікім посце заахвочваем да ўдзелу ў Песнях жальбы і Крыжовым шляху.***

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Сакавік***
*Каб духавенства і вернікі, уцягнутыя ў справу арганізацыі І Дыяцэзіяльнага сінода, былі напоўнены дарамі Святога Духа і належным клопатам пра карысць лакальнага Касцёла.*




## Чаму велікапосныя практыкі абавязкова выконваць у любові?

**У перыяд пакаяннага 40-дзённага шляху Вялікага посту мы павінны імкнуцца стаць лепшымі. Для гэтага Евангелле прапануе ўсім добра вядомыя спосабы: пост, малітву і міласціну. Галоўнае ў іх практыкаванні – гэта матыў, які павінен грунтавацца на любові да Бога і бліжняга. Калі ён адсутнічае, губляецца плён ад затрачаных высілкаў. Няхай сведчаннем таму будзе наступная байка пра Вялікі пост.**

На пачатку Вялікага посту сустрэліся Пост, Малітва і Міласціна. І сталі яны спрачацца паміж сабой: хто першы трапіць у Неба. Пастанавілі як мага хутчэй яго заслужыць.

Пост строга захоўваў традыцыі. У Папяльцовую сераду з’еў 3 пасілкі, толькі 1 дасыта. Над кубкам какавы і булкай з джэмам задумаўся, ад чаго б тут адмовіцца. Пастанавіў не есці слодычаў. Схаваў далёка ў шафку торбачку з цукеркамі і каробачку з пячэннем. Замкнуў шафку на ключ.

– Збыў гэта з галавы, – сказаў, задаволены сваёй знаходлівасцю.

За ўвесь дзень не з’еў нічога салодкага, нават гарбату не пасаладзіў. Вось гэта быў пост!

– А можа, паспрабаваць зусім радыкальна? – задумаўся. – Толькі вада!

Пасля гэтага Пост адчуў сябе дрэнна, хадзіў раздражнёны. Пасварыўся з суседам, палаяўся з прадаўшчыцай, прагнаў дзяцей, што гулялі пад яго акном. Але вытрымаў цэлы дзень без ежы.

– Заўтра буду ў Небе, – думаў. Аднак гэта не дапамагло. Раніцай прачнуўся ва ўласным ложку.

У той час Міласціна накіравалася ў банк. Мела трохі зберажэнняў. Пастанавіла частку з іх аддаць і пералічыць пэўную суму на рахунак гарадскога ўраду.

– Толькі адзначце, калі ласка, што гэта ад мяне, – сказала пры аконцы ў банку. Падпісала неабходныя дакументы і выйшла за дзверы.

– Панечка, дай на хлеб, – пачула голас бабулькі жабрачкі. Але нават не паглядзела на яе. Прайшла міма і накіравалася ў школу.

– Тут грошы на абеды для бедных дзяцей, – паведаміла сакратарцы.

Тая падзякавала за дар.

Раніцай Міласціну асляпіў бляск святла.

– Неба... – прашаптала жмурачыся. І як жа раззлавалася, калі аказалася, што гэта ўсяго толькі вясенняе сонца.

А што адбывалася ў гэты час з Малітвай? Як яна хацела заслужыць Неба?

Малітва пайшла ў касцёл. Дастала ружанец і кніжачку для набажэнстваў, укленчыла і пачала маліцца:

– Пане Божа, вазьмі мяне ў Неба. Паглянь, колькі часу я праводжу ў касцёле, як доўга стаю на каленях. Вазьмі мяне першай. Я заслугоўваю Неба больш, чым Пост і Міласціна.

Малітва кленчыла так цэлы дзень. Калі пачыналі балець калені, садзілася на хвілінку на лаву, а потым зноў станавілася на калені. Абышла ўсе касцёлы ў горадзе. Вечарам вярнулася дамоў. Стомленая, яна адправілася спаць.

Калі прачнулася раніцай у сваім ложку, была моцна здзіўлена і расчаравана.

Праз нейкі час Пост, Міласціна і Малітва зноў сустрэліся разам.

– Я аддала столькі грошай! – крычала Міласціна. – І нічога!

– Я малілася амаль без перапынку, – паскардзілася Малітва.

Пост не змог нічога сказаць. Змучаны, сядзеў на лаўцы.

Калі яны так крычалі і жаліліся адно аднаму, убачылі постаць, якая накіроўвалася да іх па вуліцы. Не ведалі, хто гэта, але тая выразна знала іх.

– Я Любоў, – прадставілася постаць. – Мяне прыслаў Бог.

Малітва, Міласціна і Пост падышлі бліжэй.

– Дарагія, – казала Любоў, – да гэтай пары вам не хапала аднаго – любові. Без яе нельга трапіць у Неба. Даваць грошы трэба з любоўю і бескарысліва. Посціць трэба з любоўю і радасна. Маліцца трэба...

– Так, зразумела, з любоўю і не на паказ, – прашаптала Малітва.

Да Пальмовай нядзелі засталося яшчэ шмат дзён. Пост, Малітва і Міласціна мелі многа часу, каб змяніцца. Ім дапамагла Любоў. Разам яны аказаліся ў Небе.

**Вялікі пост з’яўляецца асаблівым часам, каб пераглядзець матывы сваіх учынкаў і стаць на правільны шлях, які вядзе ў Божае Валадарства.**

*С. Вераніка Блізнюк FMA*



## Заданне:

**зрабі добры ўчынак “у цішы сэрца”, каб пра яго ведаў толькі Ты і Бог.**

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі. На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.**

# Ад шчырага сэрца

**Дарагі Ксёндз Пробашч Віталій Внароўскі!**
У дзень Вашага 40-годдзя жадаем мноства радасці, здароўя, шмат сіл і стойкасці ў складанай душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас мацярынскай любоўю і апекай, а таксама выпрошвае ў свайго Сына неабходныя ласкі. Дзякуем за мудрыя думкі, прыгожы прыклад веры, ахвярную працу і зычлівасць.

*З малітвай, вернікі з адэльскай парафіі*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураву**
з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, сілы, радасці, усмешкі, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа ды пастаяннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а дабрыня, вера і зычлівасць людзей заўсёды Вам спадарожнічаюць.

*Былыя парафіяне*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, радасці на кожны дзень, зычлівых людзей побач і шчодрага плёну ў душпастырскай працы.

*Вернікі з в. Асташа*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураву**
з нагоды Імянін ад усёй душы жадаем здароўя, радасці, святла. Няхай Пан Бог дасць сілы, каб паслуга была плённай і здзяйсняліся ўсе планы ды задумы. Няхай Святы Дух заўжды дапамагае, а Анёл-ахоўнік аберагае ад непрыемнасцей.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Жупраны*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін сардэчна жадаем здароўя, сілы, надзеі, жыццёвай мудрасці, душэўнага супакою, Божага благаслаўлення, апекі Панны Марыі і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны пражыты дзень прыносіць сілу і радасць для выканання душпастырскай працы.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Селіванаўцы*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, неабходных сіл у святарскім служэнні, душэўнага супакою і Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця. Няхай усе мары і задумы здзяйсняюцца, а міласцівы Бог адорвае сваёю любоўю, дабрынёй і цяплом.

*Валерый, Вераніка і Яна, парафія Селіванаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, аптымізму, надзеі і апекі святога Заступніка. Няхай Вас заўсёды ахінаюць промні Божай міласэрнасці, Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, а Маці Божая няспынна апекуецца. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Гнезна*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай святы Заступнік заўсёды будзе побач, штодзённа Вамі апекуецца і ўзносіць свае малітвы перад Божым тронам, каб Усемагутны нястомна адорваў Вас здароўем, радасцю, надзеяй і моцай.

*З малітвай, парафіяне і апостальства “Маргарытка” з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем патрэбных Божых ласкаў, настомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Усемагутны адорвае Вас добрым здароўем, цярплівасцю, стойкасцю і душэўным супакоем. Няхай Ваша цудоўная святарская паслуга прыносіць шчодры плён, радасць і задавальненне, а побач заўсёды будуць зычлівыя людзі.

*Сям’я Бондзюш з в. Монькаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**
з нагоды Імянін жадаем сіл, цярплівасці і стойкасці ў святарскай паслузе. Будзьце сапраўднай зброяй у руках Хрыста, навяртайце людзей да Бога, а таксама сваім жыццём і прыкладам давайце сведчанне аб Яго любові і штодзённай прысутнасці.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Адамавічаў і Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Айцу Раману Цесляку**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шчасця, радасці і цярплівасці на выбраным шляху. Няхай міласэрны Бог благаслаўляе кожны дзень Вашага жыцця, Маці Божая атуляе плашчом сваёй апекі, а Святы Дух адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі. Шчыра дзякуем за малітвы, добрае сэрца, якое заўсёды на нас адкрыта, за ўвагу і клопат. Аддзяч, Божа, Вам за ўсё.

*З павагай, Тэрэса, Алена і Аліна з Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, рэалізацыі ўсіх Божых планаў. Няхай Святы Дух асвячае кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Маці Божая туліць да свайго сэрца, а святы Заступнік мае ў сваёй апецы.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Жывалеўскаму**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем шмат радасці і душэўнага супакою, сіл і цярплівасці ў штодзённай паслузе, а таксама добрых і зычлівых людзей навокал. Няхай Пан Бог штодзённа Цябе благаслаўляе, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух спасылае шчодрыя дары.

*Мама і сястра*

**Паважанаму Айцу Раману Цесляку**
складаем сардэчныя імянінныя пажаданні. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень святарскай паслугі, а Усемагутны дае моц перамяняць людскія сэрцы. Жадаем таксама радасці, супакою ў душы і апекі Маці Божай.

*З малітвай і ўдзячнасцю, парафіяне з Парэчча*

**Паважаны Айцец Пробашч Валерый Шэйгерэвіч!**
З нагоды Дня нараджэння складаем найлепшыя пажаданні. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі і адорвае цяплом свайго сэрца, а Святы Дух асвячае дарогу, па якой ідзём разам з Вамі. Дзякуем за ўсмешку, дабрыню і зычлівасць. У сваіх малітвах просім, каб міласэрны Бог узнагародзіў Вас моцным здароўем, стойкасцю, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям.

*Парафіяне з Поразава і Свіслачы*

**Дарагая бабуля Здзіслава Цыдзік!**
Ва ўрачысты дзень Твайго 85-годдзя жадаем шмат здароўя, шчасця, усмешкі на кожны дзень, ніякага смутку і турбот! Май для ўсіх сваіх унукаў выдатныя прысмакі, і ніколі не будзеш мець нястачы ў іх удзячнай любові! Няхай добры Бог заўсёды трымае Цябе ў сваёй апецы, і анёлы будуць побач. Любім Цябе і жадаем, каб пражыла як мінімум 100 гадоў!

*Унучка Юлія з сям’ёй*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін жадаем здароўя, стойкасці і цярплівасці, усіх Божых дароў, апекі Найсвяцейшай Панны, моцы ў руках і чыстага полымя ў сэрцы. Вы з’яўляецеся скарбам для нашай парафіі. Дзякуем, што не дазваляеце нашым сэрцам зацвярдзець.

*Парафіяне з в. Плоскаўцы*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Мятліцкаму і Сястры Аляксандры Арэшка**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец адорвае Вас сваімі ласкамі, Езус Хрыстус будзе Прыкладам і Правадніком на жыццёвым шляху, Святы Дух апраменьвае святлом, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца.

*З памяццю ў малітве, Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважаны Айцец Казімір Жыліс!**
З нагоды Дня нараджэння і Імянін прыміце сардэчныя пажаданні: шчодрых ласкаў ад Езуса Хрыста, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, здароўя і душэўнага супакою, шмат сіл і стойкасці, веры, надзеі і любові. Мы схіляем нізка галовы і дзякуем Вам за абвяшчэнне Божага слова, ахвярную працу, цярплівасць, дабрыню, веліч сэрца і любоў.

*З малітвай, апостальства “Маргарытка” з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Бразінскаму**
з нагоды Дня нараджэння прагнем скласці мноства гарачых пажаданняў. Няхай кожны чарговы дзень Вашага жыцця будзе прыгажэйшым за папярэдні, поўным любові, веры і даверу. Няхай акружаюць сапраўдныя сябры, якія пададуць руку, калі будзе цяжка. З аптымізмам глядзіце ў будучыню, з радасцю – у мінулае. Жадаем мноства нагод для ўсмешкі, сіл і святла Святога Духа!

*Апостальскі рух “Маргарытка”, Смаргонь*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, нястомнай радасці, шчасця, аптымізму, душэўнага супакою, моцы ў выкананні святарскай паслугі, а таксама Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай Вашы мары і надзеі рэалізуюцца, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца і вернікі з парафіі Сапоцкін*

**Паважаным Айцу Казіміру Енджэйчаку і Ксяндзу Казіміру Мараўскаму**
з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, цярплівасці, стойкасці ў святарскай паслузе, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа ў абвяшчэнні Божага слова і добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас, а Найсвяцейшая Маці трымае ў сваёй апецы.

*Сем’і Юадэшка і Орлюкас*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1272; тыраж 4945; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная